*Не пакідайце ж мовы нашай беларускай, каб не ўмёрлі!*
*Францішак БАГУШЭВІЧ*




# НАША СЛОВА

Штотыднёвая газета (Выходзіць з сакавіка 1990 г.) ◆ 51(107) ◆ 23 снежня 1992 г. ◆ Кошт 1 рубель (Па падпісцы — 10 кап.)

## ПОСТУП ТЫДНЯ



***З АФІЦЫЙНЫМ ВІЗІТАМ ДЭЛЕГАЦЫЯ РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ НА ЧАЛЕ СА СТАРШЫНЁЙ САВЕТА МІНІСТРАЎ ВЯЧАСЛАВАМ КЕБІЧАМ НАВЕДАЛА УКРАІНУ.*** *Падпісана дваццаць сумесных дакументаў.*

●

***19—20 СНЕЖНЯ У ДОМЕ ЛІТАРАТАРА АДБЫЎСЯ СХОД БЕЛАРУСАЎ БЛІЗКАГА ЗАМЕЖЖА.*** *Матэрыялы з гэтага форуму «Наша слова» надрукуе ў бліжэйшых нумарах.*

●

**ПА ІНІЦЫЯТЫВЕ КАМІСІІ ПА КУЛЬТУРЫ І ГІСТОРЫІ БНФ «АДРАДЖЭНЬНЕ» Ў ДОМЕ ЛІТАРАТАРА ПРАЙШЛА ВЕЧАРЫНА,** прысвечаная 600-годдзю прыняцця вялікакняскага пасада Вітаўтам Вялікім.

●

***У МЕНСКІМ ПАЛАЦЫ МАСТАЦТВАЎ АДБЫЎСЯ ЧАРГОВЫ З'ЕЗД БЕЛАРУСКАЙ САЦЫЯЛ-ДЭМАКРАТЫЧНАЙ ГРАМАДЫ.***

●

**ЧАСОПІСУ «ПОЛЫМЯ» СПОЎНІЛАСЯ 70 ГАДОЎ.** З гэтай нагоды ў канцэртнай зале Белдзяржфілармоніі прайшла ўрачыстая вечарына. Рэдакцыя «Нашага слова» віншуе супрацоўнікаў «Полымя» з юбілеем і жадае поспехаў на ніве беларускага Адраджэння.

●

***У ДОМЕ ЛІТАРАТАРА АДБЫЛАСЯ ЧАРГОВАЯ ВЕЧАРЫНА МЕНСКАГА ГРАМАДСКА-АСВЕТНІЦКАГА КЛУБА «СПАДЧЫНА»,*** *якая была прысвечана 75-ым угодкам І Усебеларускага Кангрэса. Клубам «Спадчына» дырэктару архіва-музея літаратуры і мастацтва Ганне Сурмач была перададзена на захаванне частка архіваў беларускай эміграцыі ў Амерыцы.*

●

**НА СЕСІІ ВЯРХОЎНАГА САВЕТА РБ ВЫСТУПІЎ ВЫКОНВАЮЧЫ АБАВЯЗКІ ПРЭЗІДЭНТА ЛІТОЎСКАЙ РЭСПУБЛІКІ АЛЬГІРДАС БРАЗАЎСКАС,** які, дарэчы, паабяцаў, што ў наступны раз выступіць у Менску на беларускай мове.

## ПАДЗЕЯ, ЯКАЯ СТАРАННА ЗАМОЎЧВАЛАСЯ

*Слуцкае паўстанне: думкі гісторыкаў*

Сёлета ўпершыню адкрыта адзначаліся ўгодкі Слуцкага паўстання. Гэта знайшло пэўнае адлюстраванне ў друку: у канцы лістапада многія газеты друкавалі матэрыялы, прысвечаныя згаданай і, падкрэслім, нам невядомай падзеі.

**НАША** размова пойдзе толькі пра адно мерапрыемства — навуковую канферэнцыю, якая адбылася ў Доме літаратара. У дыскусіі ўдзельнічалі дактары гістарычных навук Міхась Біч і Анатоль Грыцкевіч, аспірант Інстытута гісторыі АН Рэспублікі Беларусь Валянцін Мазец, галоўны сакратар Згуртавання Беларускай Шляхты Лявон Акаловіч, гісторык Ніна Стужынская, літаратар Алесь Бяляцкі, дырэктар Цэнтральнага дзяржаўнага архіва-музея літаратуры і мастацтва Рэспублікі Беларусь Ганна Сурмач.

Вядучая сустрэчы пісьменніца Вольга Іпатава паведаміла прысутным сумную навіну: салігорскія ўлады забаранілі адкрыццё ў горадзе мастацкай выставы «Пагоня» з нагоды 72-ой гадавіны Слуцкага паўстання. А днём пазней высветлілася, што забаронена і адкрыццё памятнай дошкі ў Слуцку на доме, дзе 72 гады назад знаходзіўся штаб паўстанцаў. Улады Слуцка сваё рашэнне растлумачылі так: навукоўцы, маўляў, яшчэ належным чынам не разабраліся, чым на самай справе з'яўлялася гэта выступленне.

Прафесар А. П. Грыцкевіч падрабязна выклаў прычыны і ход паўстання. І слухачы нібыта перанесліся ў Слуцк восені 1920 года.

...Ужо ў пачатку стагоддзя на фоне іншых беларускіх гарадоў і мястэчак Слуцк вызначаўся больш высокім узроўнем нацыянальнай свядомасці. Тое ж самае датычыла Случчыны. Невыпадкова, што з лета 1920 года ў горадзе актыўна дзейнічаў партыйны камітэт сацыялістаў-рэвалюцыянераў. А 14-15 лістапада І Беларускі з'езд Случчыны літаральна за некалькі дзён стварыў рэгулярнае вайсковае аб'яднанне, якое са зброяй у руках з апошніх сіл стрымлівала магутны і жорсткі націск бальшавікоў...

Выступленні А. Грыцкевіча, В. Мазеца сведчаць, што яшчэ для саміх гісторыкаў-даследчыкаў ідзе працэс збору і першаснага асэнсавання фактаў, звязаных са Слуцкім паўстаннем. Што ж тут казаць пра звычайнага жыхара рэспублікі, які ў лепшым выпадку карыстаецца скупой газетнай ці тэлевізійнай інфармацыяй...

Ніна Стужынская абмежавала тэму гаворкі назвай даклада: «Беларуская моладзь у Слуцкім паўстанні». Прамоўца з фактамі, як кажуць, у руках, даказала, што абсалютную большасць паўстанцаў складалі 17-19-гадовыя юнакі. Многія з іх з'яўляліся курсантамі Гродзенскай школы афіцэраў. У прыватнасці, у 1920 годзе набор 53 курсантаў гэтай навучальнай установы быў ажыццёўлены з ліку слухачоў Менскай і Нясвіжскай настаўніцкіх семінарый, а таксама з навучэнцаў Слуцкага рэальнага вучылішча і Слуцкай гімназіі. На Случчыне дзейнічала патрыятычнае маладзёжнае таварыства «Папараць-кветка». Спасылаючыся на архіўныя дакументы, спадарыня Стужынская расказала, як жорстка расправіліся чэкісты з удзельнікамі паўстання.

Надзвычай цікавым атрымалася выступленне Алеся Бяляцкага, які зрабіў агляд твораў беларускай літаратуры, прысвечаных Слуцкаму паўстанню. Зразумела, што ён меў на ўвазе толькі эміграцкую літаратуру. Прысутныя даведаліся, што на беларускім замежжы склалася цэлая бібліятэчка «слуцкіх» твораў. У цэнтры яе — вершы Наталлі Арсенневай: «Вы пайшлі паміраць...», «Сыны і маці», «Мы ішлі», паэма «Косы». Слуцкаму паўстанню прысвяцілі свае вершы Янка Золак, Міхась Кавыль, Алесь Змагар і многія іншыя.

Новыя архіўныя крыніцы, у якіх асвятляецца Слуцкае паўстанне, падказала ўдзельнікам канферэнцыі Ганна Сурмач. Добра было б, каб у бліжэйшы час, мінаючы нашу выдавецкую маруднасць, беларускі чытач атрымаў зборнік такіх матэрыялаў. Спяшацца тут варта яшчэ і таму, што фальсіфікатарска-шавіністычны друк, які чамусьці хутчэй адгукаецца на «злобу дня», зноў стане шчодра карміць людзей байкамі пра нацыяналістычнае паўстанне ў Слуцку.

Алесь КАРЛЮКЕВІЧ.







28 лістапада ў мястэчку Семежава — адным з цэнтраў антыбальшавіцкага руху ў 1920 годзе на Случчыне — адбыўся мітынг. Тут устанавілі і асвяцілі памятны крыж.

Фота А. ВАШКЕВІЧА. (ВІС).

Да месца прыйшлася заўвага Міхася Біча, што раней рабілася ўсё магчымае, каб Слуцкае паўстанне 1920 года знікла з народнай памяці. Вынік — поўнае няведанне тагачасных рэалій, успрыманне Слуцкага паўстання як праявы палітычнага бандытызму, авантурыстычнага выступлення, апетага пазней беларускімі «нацыяналістамі». На самай жа справе гэтая падзея ёсць не што іншае, як свяшчэнная барацьба беларусаў за свае права «людзьмі звацца». Арганізатары Слуцкага паўстання змагаліся не за стварэнне нейкай буфернай рэспублікі. Наадварот, яны асэнсоўвалі сваё выступленне часткай агульнай барацьбы за незалежнасць усёй Беларусі. Ход Слуцкага паўстання трагічны. Яго ўдзельнікі выдатна разумелі немагчымасць паспяхо-

# «ГОЛАС НАРОДА — ГОЛАС

*Лісты выбаршчыкаў у Вярхоўны Савет Рэспублікі Беларусь*
*Падборку падрыхтаваў старшыня камісіі па адукацыі і культуры Н. С. ГІЛЕВІЧ*
*Лісты падаюцца са скарачэннямі*

**Мы вельмі абураны кампаніяй**, якая разгарнулася ў рэспубліцы за ўвядзенне дзвюх дзяржаўных моў. Выступаюць за гэта людзі, якія валодаюць толькі адзінай расійскай мовай і за тры гады не навучыліся мове карэннай нацыі. Гэта ці гультаі, ці няздольныя людзі! Але ні гультаям, ні няздольным няма чаго рабіць у палітыцы. (Аўдзеенка Л. М., Кішчанка І., г. Мінск, 19.10.92 г.).

* * *

*Шаноўная Камісія! Кожны, хто ўсведамляе сябе беларусам, каму неабыякавы лёс нашай Бацькаўшчыны, чакае ад вас пэўных вынікаў у змаганні за беларускую мову. Абараняць матчына слова неабходна з той жа апантанасцю і талентам, з якімі вы адстаялі нацыянальны герб і сцяг.*

*Прыхільнікі двухмоўя заклікаюць узяць за прыклад тыя краіны, дзе дзяржаўнасць дадзена не адной, а некальнім мовам. Але двухмоўе магчыма толькі ў тых краінах, дзе высокі ўзровень нацыянальнай свядомасці, дзе няма пагрозы роднай мове. На жаль, нашай дзяржавы ў гэтым спісе няма.*

*Нас вельмі вытанчана ператваралі ў янычараў, і поспехі ў гэтай справе неверагодныя: беларусы адмаўляюцца ад уласнага багацця — сваёй мовы, культуры, каштоўнай гістарычнай спадчыны, усяго таго, што складае свядомасць. А які суверэнітэт без нацыянальнай свядомасці?*

*Я за тое, каб квітнелі ўсе мовы тых нацыянальнасцей, якія ёсць на Беларусі. Але дзяржаўнай павінна быць толькі беларуская, каб даць умовы для яе развіцця, каб яна не сканала. (Наталля Цітавец, г. Мінск, 19.10.92 г.).*

* * *

У апошні час на розных узроўнях узмацніліся напады на статус беларускай мовы як мовы дзяржаўнай. Прапануецца ўвесці ў якасці дзяржаўнай рускую мову, а перад тым правесці па гэтаму пытанню рэферэндум.

Мы лічым, што антыбеларускія сілы вырашылі нанесці ўдар у галоўным напрамку, спачатку прыпыніць, а потым зліквідаваць працэс нацыянальнага Адраджэння. Калі прачытаць прыняты ў 1990 г. «Закон аб мовах у Беларускай ССР», то выразна ўсведамляецца, што правы рускай мовы надзейна абаронены. Усе размовы аб тым, што рускай мове пагражае знікненне — звычайная спекуляцыя на неінфармаванасці людзей. Рашуча выступаем супраць русіфікацыі беларусаў! (Супрацоўнікі фірмы «Белметал»: Ю. Шыбіцкі, С. Пятрашка, М. Кандакоў, З. Сялюк, А. Іокша, г. Мінск, 30.10.92 г.).

* * *

*Паважаны Ніл Сямёнавіч!*

*Я цалкам згодзен з Вашай думкай аб напоры русіфікацыі і знешнім яе адступленні. Чуў і бачыў Вашу барацьбу за нашу сімволіку, законы аб мове і адукацыі. Адчуваю Ваш шчыры боль за нашу Бацькаўшчыну, наша будучае. Сам меў «ласку» за сваё рашэнне выкладаць гісторыю на беларускай мове і з акцэнтам на беларускую гісторыю атрымаць званне «нацыяналіста», абмяркоўваўся на сесіі гарсавета (ці маю права выкладаць на беларускай мове, бо школа і падручнікі рускія). Не буду ўжо нічога гаварыць аб цяжкасцях з падручнікамі і другіх праблемах. Бачна, што Вы іх добра ведаеце і разумееце. Але, хоць гэта і непрыгожа, хочацца сказаць пра тое, што нават 10-працэнтнай даплаты за выкладанне не атрымоўваю. Бог з ёю, з гэтай сотняй рублёў. Толькі, як кажуць, за дзяржаву крыўдна.*

*Але галоўнае — воз скрануўся. Думаю, амаль упэўнены, што Вы «зверху», а мы «знізу» пераканаем людзей і... «Жыве Беларусь!» (Краўцэвіч Л. П., г. Косава, 26.03.92 г.).*

* * *

Шаноўныя дэпутаты!

Мы вельмі абураны той кампаніяй, якая пачалася ў рускамоўным друку за наданне расійскай мове статуса дзяржаўнай.

Выступаючы быццам за двухмоўе, спадары «інтэрнацыяналісты» не шчырыя, бо на самай справе яны за адну дзяржаўную мову — расійскую. Толькі на ёй гавораць, толькі яе ведаюць і ніякай іншай ведаць не хочуць. Вельмі крыўдна, што і ў Вярхоўным Савеце, акрамя апазіцыі ды Старшыні Вярхоўнага Савета, амаль ніхто не размаўляе па-беларуску. (Герасімовіч В. П. і яшчэ пяць подпісаў, г. Мінск, 19.10.92 г.).

* * *

*Добры дзень, паважаная Камісія!*

*Звяртаюся да Вас з просьбай і патрабаваннем: дапамажыце захаваць маю мову! Чаму я на сваёй Радзіме мушу аддаваць сваіх дзяцей у рускую школу? Упэўнена, што вы таксама за паўнакроўнае жыццё беларускай мовы. Таму і прашу: ніякіх дзвюх дзяржаўных моў! Я тады нават і заікнуцца не змагу, каб мае дзеці атрымалі адукацыю па-беларуску. Двухмоўе — гэта наогул абсурд. Бог нам даў такую гаворку і цяпер карае нас рознымі бедамі за тое, што мы ад яе адракаемся.*

*Так, цяжкая справа адрадзіць беларускую мову на Беларусі, але ж патрэбная. Мы не станем нацыяй, не станем дзяржавай без роднай мовы.*

*Закон аб мовах буксуе. У 1990-ым годзе я аддала сына ў першы клас. Большасць бацькоў была ўпэўнена, што дзяцей будуць вучыць па-беларуску. І ніхто не быў супраць. Але прыйшла дырэктар і сказала, што мову навучання можна выбіраць самім. Тут усе і зразумелі, што руская мова будзе больш даспадобы. Больш за дваццаць заяў з просьбай аб беларускамоўным навучанні праігнаравалі.*

*Таму мая парада Вам — прынялі Закон і патрабуйце яго выканання. Крымінальны кодэкс таксама, можа, не ўсім падабаецца, але ж ніхто не цацкаецца з тымі, каму ён не падабаецца.*

*У 1975 годзе я напісала пісьмо ў Міністэрства асветы, што хачу вучыцца ў школе на роднай мове. Але мне ніхто не спагадаў. Толькі непрыемнасцей набралася ў дванаццаць год. Вось і час змяніўся, а тое, што мучыла — засталося. «Брацця, ці зможам народнае гора?! Брацця, ці хваця нам сілы?!» Спадзяюся на Ваша сумленне і нацыянальную свядомасць. Жыве Беларусь! (Алена Збірэчка, г. Валожын, 12.08.92 г.).*

* * *

Здравствуйте, многоуважаемые депутаты!

С волнением слежу за ходом сессии. Поражает то, что в жарких дебатах о заботе и благе народа, даже несложные задачи, решение которых очевидно, многие видят через туман. Смогут ли решить такие депутаты более сложные вопросы (например, экономические) в пользу народа?..

Идет обсуждение вопроса о белорусском языке, о сохранении нации и, в конечном итоге, о сохранении независимого государства — Республики Беларусь.

Как дважды два понятно, что если государственный язык белорусский — будут жить все языки, если двуязычие, то исчезает белорусская нация.

Примеры из жизни. В прошлом году активизировалась работа по внедрению белорусского языка, но стоило только некоторым депутатам и в прессе засомневаться в целесообразности этого — как незаметно включились тормоза. Сейчас занимается выжидательная позиция.

Все депутаты прекрасно понимают ситуацию, какими бы «добренькими» не старались быть.

Принятие двуязычия смерти белоруса подобно.

Надеюсь на благоразумие депутатов. Нельзя выносить на референдум вопрос о родном языке. Это позорно!

Прошу, как избиратель, голосовать по данному вопросу поименно, чтобы история знала, кто хоронит будущее Беларуси.

С уважением Лазовский И. П., учитель. (г. Слуцк. 27.10.92 г.).

* * *

Паважаны Вярхоўны Савет!

Той факт, што ў працэсе беларусізацыі намецілася шкодная тэндэнцыя да спынення, не можа не засмучаць беларусаў. Таму мы патрабуем: беларуская мова павінна быць адзінай дзяржаўнай мовай у Рэспубліцы Беларусь. (Студэнты І курса ГДУ імя Ф. Скарыны: Чавускін, Макушынская, Гулевіч, Пушкарская, Філіпчык і інш., усяго 100 подпісаў, г. Гомель, 30.10.92 г.).

* * *

Даражэнькія дэпутаты!

Зберажыце беларускую мову!

Беларуская мова павінна быць дзяржаўнай, таму што двухмоўе загубіць і мову, і беларускую нацыю, і незалежнасць.

Не трэба параўнання з другімі дзяржавамі свету. Ніхто столькі не цярпеў здзекаў, як беларускі народ і яго мова.

Беларуская мова належыць толькі беларускаму народу. Гэта яго будучыня. Ніякіх рэферэндумаў па пытаннях мовы! (Настаўнікі Мяцельскі С. В., Гузік Я. П., Якімовіч Э. Н., Ждановіч А. Я., і іншыя. г. Слуцк, 28.10.92 г.).

* * *

*Паважаны Ніл Сямёнавіч!*

*З надзвычайнай увагай праслухала па радыё Ваша выступленне на сесіі Вярхоўнага Савета аб аднамоўі. Палымяна і вельмі пераканаўча. Прыміце маю бязмежную ўдзячнасць за Вашую пазіцыю.*

*Не магу забыць выпадак, які адбыўся са мной сёлета ранняй вясной у Мінску. Мне патрэбна было наведаць магазін «Насенне». На прыпынку ў мужчыны я спытала па-беларуску, як даехаць. Ён адказаў. Задала яшчэ пару пытанняў, таксама па-беларуску. Пасля адказаў на іх у дадатак, нібы стрэл, пачула: «Вы что, не заметили, что мне неприятно разговаривать с Вами оттого, что Вы говорите на белорусском языке?!»*

*— Цікава. На якой мове мне размаўляць, калі я беларуска і знаходжуся ў беларускай сталіцы?*

*— На русском. Я тоже белорус, но разговариваю по-русски.*

*— Калі Вы цураецеся роднай мовы, то Вам вялікая ганьба.*

*Не ведаю, чым бы скончылася гэта размова, каб ненавіснік беларускай мовы не паехаў. Я, ашаломленая, засталася чакаць свайго тралейбуса, а ў галаве адны думкі змяняліся другімі. Божухна літасцівы! Пашкадуй няшчасных беларусаў. Вызвалі іх ад рабалепства. Дапамажы ім узняць галаву, азірнуцца вакол, глянуць на сябе збоку і ўбачыць, што яны не толькі такія, але ў многім лепшыя за тых, хто імкнецца зрабіць іх сваімі бязмоўнымі служкамі.*

*Божа Усемагутны, прабудзі ў беларусаў пачуццё годнасці. Яны заўсёды былі і будуць людзьмі, толькі не ўмеюць пастаяць за сябе. Вось ужо, сапраўды, як у анекдоце: «Дазволь, дзядзечка, мне ў сваёй хаце пад лаўкай пераначаваць».*

*Яшчэ раз прабачце, цяпер ужо за сумбурнасць і памылкі, але выгаварылася і палягчэла на душы, а яна баліць і баліць за лёс беларускага народа. За якія грахі такія выпрабаванні?! (Вольга Захараўна Клыбік, в. Сянькоўшчына Слонімскага раёна, 16.11.92 г.).*

* * *

Старшыні Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь сп. Шушкевічу!

Старшыні Савета Міністраў Рэспублікі Беларусь сп. Кебічу!

Калі ласка, прыміце неадкладныя меры па адраджэнні Бацькаўшчыны. Доўга думаў, пісаць ці не гэты ліст Вам, кіраўнікам незалежнай Рэспублікі Беларусь, і ўрэшце прыйшоў да высновы: трэба пісаць. Сэнс ліста ў наступным.

Сам я беларус, мая жонка беларуска, маем дваіх дзяцей — абое школьнікі. Я і мая жонка скончылі адну і тую ж вясковую беларускую сярэднюю школу. Хаця тут жа прыйшлося забыць беларускую мову, таму што далей быў тэхнікум, інстытут і справаводства на расійскай мове, якое прымусіла думаць па-расійску аж па сённяшні час.

І вось надышла перабудова, адраджэнне незалежнай Беларусі, вяртанне да матчынай мовы, культуры, нацыянальнага навучання. У Беларусі жыве 77,8% жыхароў беларускай нацыянальнасці, г. зн. у асноўным такія сем'і, як наша. У многіх з іх такія ж праблемы, сумненні, як і ў нашай. Памятаю, якія Вы былі радасныя пасля падпісання ў Белавежскай пушчы дамоўленасці па СНД, аб якой Вы, сп. Кебіч, выступаючы па тэлебачанні, гаварылі на беларускай мове (хоць і з асобнымі расійскімі словамі), малявалі будучыню нашай Бацькаўшчыны. Аб адраджэнні гаварыў і сп. Шушкевіч.

Паверыўшы ў перабудову, Адраджэнне і асабіста Вам, сп. Шушкевіч і сп. Кебіч, стараюся і я размаўляць на беларускай мове, асабліва ў сям'і, таксама і пісаць, як вось і гэты ліст. Лічу цяпер гэта галоўнай задачай.

Але вельмі балюча за нашых дзяцей, іх будучыню: яны не карыстаюцца беларускай мовай практычна нідзе. На гэтай глебе ў нас непаразуменне з жонкай, якая прыводзіць у прыклад сп. В. Кебіча, які пасля «Белавежскай пушчы» зноў забыў беларускую мову, хаця абяцаў... Не размаўляюць і нічога не робяць па ўводу ў дзеянне Закона аб дзяржаўнасці беларускай мовы і ягоныя міністры. Прывяду прыклад. Тыдзень назад па тэлебачанні была перадача ў прамым эфіры з удзелам сп. Мірачыцкага і сп. Байдака. Толькі некалькі слоў вядучы ў пачатку перадачы сказаў па-беларуску, астатняя ўся гутарка ішла па-расійску. Гэта перадача ў асноўным была накіравана на сельскую мясцовасць. Хаця гэтыя міністры, калі іх запыталі, хто яны па нацыянальнасці і адкуль яны, вельмі ганарыліся, што беларусы. І «ответили» на расійскай мове: «Я белорус из-под Столбцов», «Я белорус из-под Слуцка». Яны свядомыя мужы. Як ім не сорамна. І вось гэтыя міністры будуць (на маю думку) супраць беларускасці. Справаводства на беларускай мове для іх як костка ў горле, і яны будуць супраць яго ўвядзення альбо будуць яго адцягваць на неабмежаваны тэрмін. Зараз у вёсцы вядуць не справаводства, а «делопроизводство», людзі заняты не працай, а «трудом». І

# БОЖЫ»

гэта там, дзе дзяцей вучаць яшчэ на беларускай мове. Да якой пары гэта можа працягвацца?

Аналагічныя абставіны ў гандлі. Замест «калі ласка» — «пожалуйста», замест «алей» — «масло», замест «цукар» — «сахар». І так паўсюдна. Хоць бы этыкеткі таварныя на першым часе замянілі — і то быў бы якісьці зрух!

Цяпер — пра школу. Аднойчы зайшоў у СШ № 97 г. Мінска распытаць наконт пераходу школы на беларускую мову навучання. Завуч школы адказала, што будзе ў наступным годзе ўсё па-старому. Толькі па два ўрокі ў тыдзень на беларускую мову і літаратуру. Кніжкі на наступны год раздалі ўсе на расійскай мове. Школа на вуліцы Ландэра — вакол усе беларусы — былая вёска. Адсюль пытанне. Да якой пары, спадары кіраўнікі незалежнай дзяржавы, мы будзем калечыць нашых дзяцей? У рэспубліцы ёсць прэса, якая палівае брудам нашу спадчыну, зневажае мову. Гэта ж недапушчальна. Асабіста Ваша, сп. Кебіч, нежаданне карыстацца дзяржаўнай мовай стрымлівае пераход многіх беларусаў (нават свядомых) на беларускую мову на бытавым узроўні.

І ў заканчэнне. Паважаныя кіраўнікі Беларусі, я не чуў Вашых асабістых выступленняў аб нацыянальным Адраджэнні, патрыятызме, гордасці, што я, маўляў, беларус і грамадзянін Беларусі. Не чуў Вашых асабістых думак. Не спасылайцеся на пастановы, законы, там няма Вашых асабістых мэт, там большасць. Прабачце, калі што не так. З павагай Туцін. (г. Мінск, 30.07.92).

* * *

*У апошні час нядобразычліўцы Беларусі ўздымаюць пытанне аб наданні рускай мове статуса дзяржаўнай. Мяне хвалюе такі масіўны націск на Адраджэнне беларускай мовы, культуры і гісторыі. Часта задаю сабе пытанне: як доўга наш народ, які даў прыстанішча і падарыў сваю дружбу прадстаўнікам іншых народаў, і ў першую чаргу выхадцам з Расіі, будзе павучацца, як яму жыць у сябе на Радзіме, на якой мове гаварыць, паважаць ці не сваю культуру і гісторыю? У якой краіне яшчэ можна назіраць падобнае? І ўсё гэта робіцца пры наяўнасці Закона Рэспублікі Беларусь аб дзяржаўнасці беларускай мовы. Калі ж Урад Беларусі стане на абарону мовы народа, які даў назву нашай дзяржаве?*

*Мне вельмі спадабаўся адказ Прэзідэнта Казахстана Назарбаева карэспандэнту тэлебачання «Астанкіна» аб мовах у рэспубліцы. Ён сказаў, што казахская мова ў Казахстане павінна заняць такое становішча, як руская ў Расійскай Федэрацыі. Хацелася б пачуць падобны адказ Вярхоўнага Савета і Урада Рэспублікі Беларусь тым сілам, якія імкнуцца навязаць нашай рэспубліцы дзяржаўнае двухмоўе. Рускамоўнаму насельніцтву ў Беларусі нішто не пагражае.*

*На мой погляд, неабходна ўсім уладным структурам Рэспублікі Беларусь узяць пад строгі кантроль выкананне Закона аб мовах у Рэспубліцы Беларусь. Такая думка і многіх маіх аднавяскоўцаў, з якімі я неаднойчы гутарыў па гэтаму пытанню. (Булаўко Іван Макаравіч, пенсіянер, в. Бастуны Воранаўскага раёна, 23.10.92 г.).*

* * *

*Народныя дэпутаты павінны цвёрда ведаць, што дзяржаўнай мовай на тэрыторыі Беларусі павінна быць* **БЕЛАРУСКАЯ МОВА.** *Але я чуў па радыё выступленне на 10-ай сесіі Вярхоўнага Савета Беларусі дэпутата не народнага (назваць прозвішча яго не змагу: не прыпомню), які хоча вырашыць на ўсенародным рэферэндуме Беларусі пытанне аб дзяржаўнай мове на тэрыторыі нашай рэспублікі. Цвёрда ведаю, што на тэрыторыі Літвы дзяржаўнай з'яўляецца літоўская мова, на тэрыторыі Латвіі — латышская мова, на тэрыторыі Расіі — руская і г. д. А на тэрыторыі Беларусі — такою павінна быць беларуская мова. Не руская, а беларуская!*

*Мова любога народа з'яўляецца прыгожай мовай, і не трэба таўчы ваду ў ступе або пералiваць з пустога ў парожняе: не трэба ніякага рэферэндуму.*

*Рашайце, дэпутаты, пытанні па-народнаму, падзелавому. Не трэба траціць грошы на рэферэндумы. Быў усесаюзны рэферэндум, а што з яго атрымалася?*

*Што ж Вы (я гавару пра некаторых) за дэпутаты Беларусі, калі не ўмееце і не хочаце навучыцца размаўляць на беларускай мове? Дзе ж Ваша гордасць за сваю мову, за свой народ?*

*Паўтару яшчэ раз: усе мовы — руская, беларуская, польская і г. д. — вельмі прыгожыя мовы. Але ж на тэрыторыі Беларусі дзяржаўнай павінна быць беларуская мова. (Адамовіч Мікалай Адамавіч, грамадзянін Беларусі, г. Мінск, 29.10.92).*

* * *

З вялікай цікавасцю сочым за работай сесіі Вярхоўнага Савета. Няма мяжы нашаму абурэнню, калі чуем, як некаторыя дэпутаты, патрабуючы дзяржаўнага двухмоўя, імкнуцца знішчыць родную мову. Мы добра разумеем, што ўвядзенне ў якасці дзяржаўнай рускай мовы непазбежна прывядзе ва ўмовах нашай рэспублікі да гібелі нацыі, народа. Яшчэ Ф. Багушэвіч у мінулым стагоддзі папярэджваў: «Не пакідайце ж мовы нашай беларускай, каб не ўмёрлі!». Як жа трэба не любіць сваю Бацькаўшчыну, не паважаць свой народ, каб жадаць яму заўчаснай гібелі!

Сёння ў людзей адабралі ўсё: зробленыя працоўнымі мазалямі грошы, здароўе, пазбавілі дастойнага чалавека жыцця. І вы, шаноўныя дэпутаты, збіраецеся адабраць апошняе: пазбавіць права думаць, гаварыць, вучыцца на беларускай мове.

# Абаронім нацыянальную мову — умацуем дзяржаву!

*Зварот Рэспубліканскай Рады ТБМ імя Францішка Скарыны*

Як вядома, ужо трэці год дзейнічае ў рэспубліцы Закон аб мовах, якім вызначаны статус нацыянальнай мовы Беларусі як адзінай дзяржаўнай. Гэта важнейшая для нацыянальна-дзяржаўнага развіцця народа Беларусі прававая норма замацавана ў дзеючай Канстытуцыі і Дэкларацыі аб дзяржаўным суверэнітэце Рэспублікі Беларусь, якія былі прыняты ў адпаведнасці з воляй беларускага народа больш як двума трэцямі складу Вярхоўнага Савета Рэспублікі.

І вось цяпер, калі Рэспубліка Беларусь абвясціла палітычную незалежнасць і эканамічную самастойнасць, калі на Бацькаўшчыне імкліва ідзе фарміраванне інстытутаў дзяржаўнасці — ад дыпламатычных структур усіх узроўняў да нацыянальнага войска — шэраг народных дэпутатаў Рэспублікі Беларусь пры абмеркаванні ў Вярхоўным Савеце праекта Канстытуцыі ў другім чытанні выступілі з прапановай замацаваць за рускай мовай статус другой дзяржаўнай мовы рэспублікі.

Аўтарам азначаных вышэй выступленняў бракуе, як бачна, гістарычнай кампетэнтнасці і дасведчанасці ў галіне моўна-культурнага заканадаўства рэспублікі. Уся гісторыя Беларусі сведчыць аб талерантным стаўленні яе карэннага насельніцтва да моў і культуры ўсіх нацыянальных супольнасцей, якія жылі і жывуць на беларускай зямлі. Гэтаму не супярэчыць тое, што беларускі народ на сваёй этнічнай радзіме настойліва імкнуўся захаваць за роднай мовай функцыі грамадска-дзяржаўнай мовы, што засведчана ў такіх дзяржаўна-палітычных дакументах, як Статут Вялікага княства Літоўскага, акты Кастуся Каліноўскага, Статутныя граматы Беларускай Народнай Рэспублікі, палажэнні нарматыўных актаў БССР у 20-ых гадах. Да гэтага ў свой час імкнуліся і прыйшлі ўсе краіны цывілізаванага свету. І тыя нацыянальныя супольнасці, якія жывуць у Беларусі, захоўваюць роднасныя сувязі з народамі на сваіх этнічных тэрыторыях, дзе сфарміраваліся дзяржаўныя нацыянальныя ўтварэнні, у якіх выкарыстоўваюцца як адзіна дзяржаўныя толькі адпаведныя нацыянальныя мовы: руская ў Расіі, польская ў Польшчы, літоўская ў Літве і г. д. Такая аб'ектыўная рэальнасць нацыянальна-дзяржаўнага будаўніцтва ў цывілізаваным свеце, і яна не магла не паспрыяць таму, каб і ў Беларусі беларуская мова набыла статус адзінай дзяржаўнай мовы рэспублікі.

Цяпер дзейны Закон аб мовах у Рэспубліцы Беларусь, у адпаведнасці з ратыфікаванымі рэспублікай міжнароднымі дакументамі ў галіне абароны правоў чалавека, прадастаўляе ўсе магчымасці для выкарыстання як рускай, так і іншых моў нацыянальных меншасцей у іх грамадска-культурным жыцці. Больш таго, руская мова з'яўляецца абавязковай для вывучэння ва ўсіх навучальных установах рэспублікі, шырока прадстаўлена ў аўдыёвізуальным афармленні жыццёвага асяроддзя, з'яўляецца мовай міжнацыянальных зносін і г. д. Фактычна на сёння сітуацыя склалася такая, што прыхільнікі рускай мовы ў Беларусі маюць непараўнальна больш магчымасцей для шырокага ўжытку яе ў грамадскім жыцці рэспублікі, чым носьбіты мовы любой нацыянальнай меншасці як у Рэспубліцы Беларусь, так і ў любой еўрапейскай краіне. Ні пра якое гвалтоўнае паніжэнне яе ролі ў нашай дзяржаве гаварыць няма падстаў.

За прапановамі замацаваць у прававой сістэме рэспублікі за рускай мовай статус другой дзяржаўнай мовы нельга не бачыць далёка ідучыя мэты: спыніць працэс нацыянальна-культурнага адраджэння Беларусі, унесці напружанасць у міжнацыянальныя адносіны ў рэспубліцы і стварыць умовы, у выніку якіх стане магчымым скасаванне нацыянальна-дзяржаўнай незалежнасці Рэспублікі Беларусь і пераўтварэнне яе ў выніку ў духоўна-культурную правінцыю Расіі, а ў дачыненні да шэрагу рэгіёнаў — і іншых сумежных дзяржаў. У гэтым — уся сутнасць пытання. І не трэба хітраваць і разлічваць на наіўных.

Прыняцце першай Канстытуцыі незалежнай Рэспублікі Беларусь нельга азмрочыць замацаваннем у ёй антынароднага і антыдэмакратычнага палажэння аб дзяржаўным статусе мовы якой бы ні было нацыянальнай меншасці Беларусі. Нельга дапусціць, каб Закон аб мовах не выконваўся службовымі асобамі рэспублікі, у тым ліку і некаторымі прадстаўнікамі заканадаўчай улады. Вярхоўны Савет як выразнік волі народа Беларусі і правамоцны яго прадстаўнік ва ўсіх сферах грамадскага жыцця, а значыць і ў галіне моўнакультурнай, не можа насуперак яго карэнным інтарэсам усталёўваць у рэспубліцы дзяржаўнае двухмоўе, ведаючы, што гэтым самым пазбавіць беларускі народ роднай мовы і гістарычнай перспектывы яго духоўна-культурнага развіцця.

Без развітай нацыянальнай культуры і шырокай прысутнасці ў дзяржаўна-грамадскім жыцці нацыянальнай мовы няма будучыні для Беларусі. Няма будучыні і ў тых палітычна-грамадскіх сіл у рэспубліцы, якія ставяць сабе на мэце зруйнаванне нацыянальнай мовы Беларусі і фактычнае пазбаўленне яе статусу дзяржаўнай у выніку ўсталявання дзяржаўнага двухмоўя.

Але!

# «СОВЕТСКАЯ БЕЛОРУССИЯ» І «СОВЕТСКАЯ РОССИЯ» ГРАЮЦЬ У АДНУ ДУДУ?

Вялікая прыхільніца ўсяго антыбеларускага газета «Советская Белоруссия» ў № 220 (24.11.92) вызначылася зноў. У матэрыяле з кідкім загалоўкам «Метод выкручивания рук» ды пад рубрыкай «Как делается политика» яна абрынулася на прыхільнікаў Беларускага Народнага Фронту і асабіста на Зянона Пазьняка (а як жа без яго!), прызнаўшы ў іх ні многа, ні мала агентаў імперыялізму. За тое, што ўдзельнічалі ў канферэнцыі па тэме: «Свабодная эканоміка і дэмакратыя», якую праводзілі супрацоўнікі прыватнага інстытута Крыбла («Вашынгтон, ЗША» шматзначна падкрэсліла газета ў падзагалоўку). У «Советской Белоруссии» ўпэўненым тонам абвяшчаецца, што гэны самы інстытут быў спецыяльна створаны з мэтаю разбурэння СССР, бо «правящему миром капиталу выгодно иметь на месте бывшей влиятельной державы россыпь мелких обескровленных (?!) стран — колонии (?), сырьевые придатки (?), а не конкурентов». І далей, у тым жа накірунку і такімі знаёмымі з часоў легальнага існавання ЦК КПБ-КПСС і той самай «влиятельной державы» слоўнымі абоймамі па тых, хто за сапраўдную эканамічную незалежнасць Беларусі, за развіццё яе культуры і мовы, без чаго нічога добрага не атрымаецца.

Але ці выпадкова, што ў гэты ж час у маскоўскай газеце «Советская Россия» з'яўляецца артыкул пра той жа семінар па рыначнай эканоміцы ў Менску, дзе агентамі ЦРУ фактычна **абвінавачваюцца прыхільнікі** расійскага прэзідэнта Ельцына? Праўда, там пад тэкстам падпісаліся былыя «народныя дэпутаты СССР» Ю. Голік і Н. Энгвер сумесна з вядомымі сваімі імкненнямі вярнуць былую бальшавіцкую імперыю хоць бы і сілай С. Бабурыным ды І. Шашвіяшвілі. У «нас» подпіс аказаўся больш сціплым — Людміла Маслюкова, **«обозреватель «Советской Белоруссии»**. Цікава, што ў гэтым жа нумары «Советской Белоруссии» надрукаваны артыкул за яе ж подпісам, але ўжо пра пажарных. Спадарыня, аказваецца, «шматстаночніца» — ведае і пра пажары, і пра дзяржаўную палітыку, і нават пра тое, хто ў нас агенты імперыялізму. Тут яна нечым нагадвае вядомую з часоў пачатку **«перестройки» «падпісантку». Пра апошнюю ў журналісцкім асяродку хадзіў жарт, што ўвогуле тая «падпісантка» неблагая** жанчына, адно шкада — аддала сваё прозвішча для псеўданіма спецслужбаў. Але цяпер яна павысіла статус і падпісваецца **заснавальніцай газеты «всех славян».**

**То на яе ранейшае амплуа,** мо, высунулася Людміла Маслюкова пад «дахам» «Советской Белоруссии»? Ці тыя майстры па ачарненні нацыянальна свядомых людзей Беларусі сюды **сабраліся гуртам**? Відаць, не ўсе, калі меркаваць па цэламу букету расійскамоўных выданняў, што называюць сябе інтэрнацыяналісцкімі. Яны дружна карыстаюцца не толькі літаратурнымі «напрацоўкамі», але, відаць, і дасье спецслужбы, якой кіравалі з ЦК КПБ-КПСС. Каму яны служаць цяпер? Наўрад ці вядуць сваю «гульню» самі па сабе. Бо амаль навідавоку ніткі, за якія іх торгаюць.

**Ул. ЧУБКОЎ.**

# ПАЧАТКІ

Вочна-завочная школа

Вядзе Валянціна Карлаўна РАМАНЦЭВІЧ

## ЗАНЯТКІ XIII

### ФАНЕТЫЧНАЯ РАЗМІНКА

**1. Прачытайце скорагаворку, запомніце. Прагаварыце хутка па тры разы.**

З горкі-горачкі, дзе грэчка,
ручаёк прыбег да рэчкі.
(**В.** Жуковіч.)

**2. Прачытайце словы, выразна вымаўляючы** *не (ня):*

| (н'а | (н'а) | (н'э) |
|---|---|---|
| не по́ле | не так | не такі́ |
| не бу́льба | не той | не яго́ |
| не грэ́чка | не ён | не ўсяго́ |
| не мо́рква | не ўсе | не пяццю́ |
| не жы́та | не ваш | не трыма́ |

**3. Дапішыце прыклады па ўзору так, каб у першым слупку часціца** ***не*** **чыталася (н'а), а ў другім — (н'э).**

| | |
|---|---|
| не лю́біць | не разлю́біць |
| не ... | не ... |
| не ... | не ... |
| не ... | не ... |

**4. Прачытайце прыказкі і прымаўкі, захоўваючы правілы вымаўлення галосных, зычных і іх спалучэнняў. Растлумачце іх сэнс.**

У дрэнную пагоду добры гаспадар і сабаку з двара не гоніць. Усе птушкі крылы маюць, ды не ўсе лятаюць. Рак не рыба, а кажан не птушка. Вала завуць не ў госці, не мёду піць, а ваду вазіць. Не рыба, што ў рэчцы, а рыба, што ў ручцы. На лечаным кані не наездзішся. Воўк блізка шкоды не робіць. І сабака на таго не брэша, чый хлеб есць. І сабака на пуста не брэша. Конь каню не роўны. Жолаб да каня не ходзіць. Кармі каня не пугай, а сенам з лугу. Воўк казе не таварыш. Не першы раз ваўку ў лесе зімаваць.

### ПАЎТАРЭННЕ ВЫВУЧАНАГА

**1. Пабудуйце паведамленні паводле наступных сітуацый:**

* Мы купілі маленькае кацяня.
* Наш сабака мяне выратаваў.
* Статак пасвіўся каля самай шашы.
* Люблю бываць на іпадроме.
* **Дзеці даглядалі маленькіх куранят.**
* Мы летам дапамагаем бацькам па гаспадарцы.
* У нашых знаёмых вельмі злы сабака.

**2. Паводле тэксту А. Лакоткі і С. Барыса «Падрыхтоўка да вяселля. Заручыны» адкажыце на пытанні:**

— Як рыхтаваліся нашы продкі да вяселля?
— Што папярэднічала сватанню, калі хлопец меў намер жаніцца?
— Як адбывалася сватанне?
— Чым Вас зацікавіў звычай правядзення заручын?
— Хто прымаў удзел у правядзенні зборнай суботы?
— Якая страва на вяселлі была цэнтральнай?

**3. Спішыце тэкст, растлумачце напісанне выдзеленых слоў.**

### Певень-вартаўнік

У *вёсцы ўсе* мелі сабак. А ў нашага суседа **сабакі** не было.

— *Есць вартаўнік і ў мяне,*— сказаў ён мне аднойчы.

*Я падумаў*, што ён жартуе.

Неяк я *паслаў* сына да суседа папрасіць садовых нажніц. *Хлопчык вярнуўся* напалоханы, быццам за ім *гнаўся мядзведзь.*

— Хто цябе *напалохаў? — спытаў* я.

— Певень!

Давялося мне самому *ісці*. На двары *ўбачыў вялізнага* пеўня. Я *падышоў бліжэй*. Певень *глянуў, пер'е* натапырыў, І раптам як *кінецца* на *мяне.* Я *пачаў* адбівацца.

На *шчасце* тут *выйшаў* сусед. Ён *загадаў* пеўню адступіць. І певень *выканаў* каманду свайго гаспадара.

*Праўду казаў* сусед. Добры *ў яго быў вартаўнік.*

## ДЛЯ ЦІКАЎНЫХ

**Прачытайце тэкст і перакажыце яго.**

### Вяселле

У залежнасці ад сацыяльна-бытавога становішча вяселлі былі некалькіх відаў: звычайнае, прымацкае (малады ішоў у **прымы**), сіроцкае (калі адзін з маладых быў сірата), удавецкае і г. д. Адпаведна кожнаму віду вяселля выконваліся пэўныя абрады і песні. Удава не мела права адзець вянок. Прымацкае вяселле звычайна гулялі толькі ў хаце маладой. Сірата хадзіла раніцай у нядзелю на могілкі «зваць» памерлых бацькоў на вяселле. На вяселлі ёй спявалі шмат сіроцкіх песень.

На вяселлі выконваліся такія абрады: расплятанне касы, благаславенне, выкуп маладой, абмен каравяаў або вяночкаў, злучэнне каравяаў, абход вакол стала. Госці, родзічы і ўсе прысутныя благаслаўлялі маладую сесці «на пасад» — на дзяжу.

У вяселлі ўдзельнічалі дзве дружыны: нявесты і жаніха. Кожная з іх мела пэўны штат «чыноў». У дружыне маладога — старшы сват, дружкі, свашкі, стараста і іншыя; у дружыне маладой — браты, дружкі. Кожнаму з іх давалі штучную кветку. Халастым яе прышчэплівалі злева, а жанатым — справа. Сватоў перавязвалі ручнікамі. У наш час назвы вясельных чыноў спрасціліся: засталіся толькі сват, сваццся, шаферы і шаферкі.

Выпраўляючы маладога да маладой, благаслаўлялі. Дзяўчаты спявалі жаніху песні. Дружына маладога ехала да маладой на фурманках. Звонка звінелі бомы, каля дуг гойдаліся ручнікі. Шпарка беглі коні, з шумам і звонам вясельны поезд жаніха ехаў па вуліцы, дзе жыла маладая. Мужчыны затрымлівалі гэты абоз, патрабуючы «пропуск», «выкуп».

...Маладых садзілі за стол, абсыпалі збожжам і хмелем. Дзяўчаты і жанчыны з усёй вёскі прыходзілі паглядзець на маладых і паспяваць. Яны заходзілі ў хату або ў сенцы і ўтваралі хор. На вяселлі кожнае абрадавае дзеянне апаэтызавана, суправаджалася песнямі. Спявалі песні маладым, іх бацькам, сватам, дружкам.

...Дзяўчаты заводзілі маладую ў камору, каб памераць жаночы галаўны ўбор. Валасы завівалі, адзявалі чапец, накрывалі наміткай або хусткай, звалі жаніха, каб пазнаў маладую сярод жанчын. У любы час вяселля маглі «ўкрасці маладую». Жаніх павінен быў знайсці яе і выкупіць.

Кульмінацыяй застолля была дзяльба каравая нявесты. Есці яго трэба было супольна ўсёй грамадой. Дзяліў каравай старшы сват, першы кавалак з сярэдзіны ён даваў маладым. Калі дзялілі каравай, маладых адорвалі падарункамі. Апрача матэрыяльных, дарылі дзеля забавы і сімвалічныя дары, гаварылі дасціпныя жарты, напрыклад: «Дару пятак медзі, каб былі дзеці здаровы, як мядзведзі», «Дару дзве цыбулі, каб не паказвалі адзін аднаму дулі».

Вельмі кранальна развітвалася маладая з бацькамі, сяброўкамі, суседзямі, цалуючыся з кожным.

Сустракаючы маладых, у варотах двара жаніха раскладвалі вогнішча. Маладыя і іх дружыны пераязджалі праз агонь. Бацькі сустракалі маладых пачастункамі і запрашалі іх у хату.

Заходзячы ў хату, маладая сыпала жытам і цукеркамі ва ўсе куткі, у хлеў несла кавалачак сыру, на студню вешала пояс, каб усюды вялося дабро. Жанчына ад маладой вешала на абразы ручнікі, засцілала сталы абрусамі.

З песнямі і музыкай маладых праводзілі ў клець або ў гумно спаць. Раніцай маладая выходзіла да гасцей у галаўным уборы замужняй жанчыны.

Апошняй стравай на вяселлі была (у залежнасці ад мясцовай традыцыі) каша, капуста ці спечаная курыца. З гэтай нагоды ў народзе трапна гаварылі: «Пасля кашы няма пашы», «Пасля капусты сталы пусты».

Вяселле магло працягвацца цэлы тыдзень. Але хоць гулялі некалькі дзён, рэдка калі напіваліся, бо пілі ў асноўным квас, мядуху, піва, варануху (напітак з ягад).

У наступную нядзелю пасля вяселля маладыя з блізкай раднёй маладога ехалі ў госці да бацькоў нявесты. Яе бацькі частавалі гасцей пірагамі.

**Паводле**
**А. ЛАКОТКІ**
**і С. БАРЫСА.**

## Новая тэма: Правапіс канчаткаў назоўнікаў мужчынскага роду з нулявым канчаткам і ніякага адзіночнага ліку

### РОДНЫ СКЛОН

Назоўнікі мужчынскага роду з нулявым канчаткам у родным склоне ў залежнасці ад лексічнага значэння маюць канчаткі *-а(-я), -у(-ю).*

Канчаткі *-а(-я)* маюць назоўнікі, якія абазначаюць:

а) асоб, жывых істот, а таксама часткі цела чалавека і жывёл: *брата, Івана, мядзведзя, шчупака, рота, локця;*

б) канкрэтныя прадметы рэчаіснасці, якія можна лічыць: *дома, стала, сшытка, алоўка;*

в) навуковыя тэрміны: *плюса, ромба, косінуса, дзейніка;*

г) прадпрыемствы, установы, грамадскія арганізацыі: *завода, камбіната, інстытута, прафсаюза;*

д) геаграфічныя і астранамічныя назвы, паселішчы: *Нёмана, Брэста, Юпітэра, горада, хутара;*

е) пэўныя прамежкі часу, грашовыя адзінкі, меры вагі і інш.: *года, тыдня, рубля, кілаграма, метра.*

Усе назоўнікі ніякага роду ў родным склоне таксама маюць канчаткі *-а(-я): возера, неба, мора, поля.*

Канчаткі *-у(-ю)* маюць назоўнікі, якія абазначаюць:

а) з'явы прыроды: *ветру, снегу, сухавею, грому, туману;*

б) зборныя прадметы: *лесу, гароху, чароту;*

в) рэчывы, хімічныя элементы, матэрыялы: *цынку, азоту, кіслароду, пяску, асфальту, аксаміту, шоўку;*

г) разумовыя паняцці, пачуцці, адчуванні: *болю, жалю, розуму, сораму;*

д) дзеянні, стан чалавека: *прыходу, запісу, сну, плачу, смеху;*

е) грамадскія фармацыі, вучэнні, тэорыі: *феадалізму, капіталізму, дарвінізму, рэалізму.*

Гэтыя ж канчаткі маюць назоўнікі іншых груп у складзе ўстойлівых спалучэнняў: *з году ў год, з краю ў край.*

Некаторыя назоўнікі мужчынскага роду ў залежнасці ад лексічнага значэння або стылю маўлення могуць мець паралельныя канчаткі: *а(-я), -у(-ю).* Напрыклад, назоўнікі *вяз, клён* і інш., калі яны абазначаюць аднародную масу рэчыва (драўніну, матэрыял), ужываюцца з канчаткам *-у*; калі ж гэтымі назоўнікамі абазначаюцца канкрэтныя дрэвы, то ўжываецца канчатак *-а*, напрыклад: *цацка зроблена з клёну*, але *з клёна апаў апошні лісток.*

У размоўным стылі і ў мове мастацкай літаратуры з канчаткам *-у* могуць ужывацца канкрэтныя назоўнікі пры абазначэнні месца дзеяння ці напрамку руху: *каля плоту, выйшла з дому.*

### МЕСНЫ СКЛОН

Назоўнікі мужчынскага і ніякага роду ў месным склоне адзіночнага ліку могуць мець канчаткі *-е, -і, -ы, -у(-ю): -е* маюць назоўнікі з цвёрдай асновай, якія абазначаюць асобу чалавека, неадушаўлёныя з цвёрдай асновай і на *г, х,* пры гэтым цвёрды зычны пераходзіць у мяккі, а *г, х* — у *з, с: па сыне, пры салдаце, у лесе, у жыце, на беразе, у кажусе;* слова *малако* ў месным склоне мае пад націскам канчатак *-э*, а *к* чаргуецца з *ц: малацэ;*

*-і* пішацца ў назоўніках з мяккай асновай: *на кані, на полі, у галлі, у выраі;*

*-ы* пішацца пасля зацвярдзелых зычных: *у гаражы, у моры, на зубры;*

*-у(-ю)* маюць назоўнікі з асновай мяккай, зацвярдзелай і на *г,к, х,* што абазначаюць асоб (*пры кавалю, пры кушнеру, аб пастуху*), назоўнікі з асновай на *г, к, х,* калі няма традыцыйнага чаргавання (*на рагу, у пяску, па шляху*), а таксама назоўнікі ў складзе ўстойлівых выразаў *(на хаду, на ляту, на віду).*

### ПРАКТЫКАВАННІ

**1. Растлумачце, чаму ў адным выпадку выдзеленыя словы пішуцца з канчаткам *-а*, а ў другім — з *-у*.**

Лісце *дуба* доўга не ападае.
Міхась купіў лодку з *дубу*.
Мы вас пачакаем каля *пад'езда.*
Да вашага дома няма *пад'езду.*
Дзеці бегаюць каля *ясеня.*
Лыжкі зроблены з *ясеню.*

**2. Словы, запісаныя ў дужках, пастаўце ў патрэбнай граматычнай форме і растлумачце правапіс канчаткаў.**

Прыехаў з (Брэст), гурбы (снег), мяшок (цукар), ускраек (лес), тона (хлеб), літр (квас), вуліца (горад), пах (бэз), рогі (алень), зараснікі (лазняк), шмат (час), новага (дом), да самага (ганак), метр (паркаль), вядро (торф), сігналы з (Марс), святло (Месяц).

3 трыма словазлучэннямі (на выбар) складзіце сказы і запішыце іх.

## Развіццё гутарковай мовы

***Звяры і дзікія птушкі***

* * *

Зубр — зубр
зубрёнок — зубраня, зубранё
лось — лось
лосёнок — ласяня, ласянё
олень — алень
оленёнок — аленяня, аленянё
медведь — мядзведзь
медвежонок — медзведзяня, медзведзянё
волк — воўк
волчонок — ваўчаня, ваўчанё
лиса — ліса
**лисёнок** — лісяня, лісянё
дикий кабан — дзік
рысь — рысь
рысёнок — рысяня, рысянё
заяц — заяц
зайчонок — зайчаня, зайчанё
белка — вавёрка
бельчонок — ваверчаня, ваверчанё
ёж — вожык
крот — крот

* * *

журавль — журавель, жораў
аист — бусел
цапля — чапля
куропатка — курапатка
кукушка — зязюля
жаворонок — жаваранак, жаўранак, жаўрук
дятел — дзяцел
**ласточка** — ластаўка
дрозд — дрозд
трясогузка — сітаўка

### ЗАДАННІ

**1. Падкрэсліце словы, з якімі вы сустрэліся ўпершыню, запомніце іх і складзіце з імі сказы.**

**2. Назавіце вядомыя Вам казкі і легенды, у якіх галоўныя героі — звяры і дзікія птушкі.**



## Шэдэўры сусветнай паэзіі па-беларуску

*Рубрыку вядзе*
*Лявон БАРШЧЭЎСКІ*

Пачынальнікам надзвычай багатай англійскай рамантычнай паэзіі лічыцца Уільям Блейк (1757—1827), у лепшых творах якога спалучаліся іронія і патэтыка, сатыра і лірызм.

*Уільям БЛЕЙК*

### Чысты чацвер

Ці ж можа свята чыстым быць,
Калі краіна-багацей
Скупіцца хлебам накарміць
Сваіх гаротнікаў-дзяцей?

Вяліkдзень — чым жа ён вялік,
Калі ні ў скверы, ні ў двары
Не раздаецца смех і крык
Вясёлай, шчаснай дзетвары?

Ці ж гэта песня так гучыць?
— Дзеля Хрыста падай, падай...
І неба чуе ды маўчыць.
О, як збяднеў брытанскі край!

Зраднўшыся з такой жальбой,
Ты к іншым песням не прывык,
І дні за днямі над табой —
Глухой начы густы башлык.

І суткі ў суткі напралёт
Па-над табой святла няма,
Не растае сталетні лёд
І не канчаецца зіма.

Бо дзе святло — там светла жыць,
Дзе сонца — там трава і кветка,
І там жабрацтва не блішчыць
Галодным позіркам падлетка.

Пераклад з англійскай
Язэпа СЕМЯЖОНА.

### Тыгр

Тыгру! Тыгру! не маўчы,
Полымя ў лясах начы,
Выдай тайну пематы,
Кім, суладны, створан ты?
Ці зямлі, ці небу ў скронь
Біў тваіх вачэй агонь?
Хто імклівасць даць агню
Рызыкнуў упершыню?
Чый адчай на след напаў,
Жылы хто твае напяў?
Хто, пачуўшы сэрца бой,
Не ўцякаў, а быў з табой?
Молат чый, які ланцуг
На кавадлу клаў твой дух?
У якіх гарнах кіпеў
Мозг твой, што распальваў гнеў?
А як дзіды пакрысе
Абранілі зоркі ўсе,
Ці ўсміхаўся ў пахвальбе,
Хто стварыў ягня й цябе?
Тыгру! Тыгру! не маўчы,
Жахам свецячы начы,
Створан сілаю якой
Аднаведны вобраз твой?

Пераклад з англійскай
Рыгора БАРАДУЛІНА.

*Рэха*

## Адсюль — любоў да мовы

Чытаю «Наша слова» пастаянна, бо ўсё, аб чым піша газета, цікавае, яно прымушае думаць, разважаць.

Я шчыра ўдзячная за рубрыку «Ад роднае зямлі» («Наша слова» за 18 лістапада г.г., артыкул «Дом, дзе нараджаецца вясёлка»). Гэты артыкул вельмі ўзрушыў мяне, выклікаў успаміны.

...Вёска Талуць на Вілейшчыне — гэта родная вёска маёй маці, цётак, дзядзькоў, якіх ужо няма на свеце.

Лёс склаўся так, што мы жылі ў маёй бабулі ў Талуці з 1941 па 1943 год — у цяжкія для Беларусі часы. Дзед быў вясковым кавалём.

Мне было тады 11-13 год. Тры гады жыцця тут далі вельмі многа. Мы разам з братам і старэйшай сястрой навучыліся гаварыць па-беларуску (да вайны жылі ў Польшчы). Ніколі не забуду сяброўвак. А іх было каля дваццаці. Маці навучыла мяне працы, вязаць, вышываць, шыць. І цяпер захоўваю, як талісман, цудам уцалелыя ад пажару рэчы: фартушок, (палатно для пакрыцця галавы жанчыны), вытканы маёй бабулькай аж у пачатку стагоддзя, верацяно.

...У вольны час мы любілі бываць на ўлонні прыроды. На ўсё жыццё засталася ў памяці Зялёніха з зялёнкамі і баравікамі, Ламы, бор, Лісава гара, куды мы бегалі збіраць грыбы, а вясной — па сон-траву... А якое вакол было хараство! Святкавалі Вялікдзень, Сёмуху, Каляды. Уся вёска рыхтавалася да святаў. Скажу яшчэ, што вёска была чыстая, кожную суботу вуліца падмяталася. Амаль перад кожным домам быў палісаднік, дзе абавязкова раслі мята, наготкі, «юргіня». На вокнах хатаў — бальзаміна і мірт. Мы падрасталі з любоўю да працы, да сваёй вёскі, да нашай прыроды, роднай мовы. Адсюль — любоў да Беларусі, любоў і павага да беларускай культуры, прыроды, мовы, да беларускага народа, якія ў маім сэрцы жывуць, і ніхто іх не выб'е.

Усё гэта я выхоўваю і ў сваіх вучняў. Нічога, што сама выкладаю рускую мову і сусветную літаратуру. Упэўнена, што рубрыка «Ад роднае зямлі», як і ўся газета «Наша слова», абудзіць свядомасць людзей, прымусіць іх паглядзець на сябе іншымі вачыма. І менш будзе людзей, якія зневажаюць нашу мову і дзяржаўныя сімвалы, менш будзе такіх, якія чыняць акты вандалізму над усім беларускім.

**Н. У. ПЯСТУН.**
г. Глыбокае.

*Беларускае замежжа*

## «Рокаш» пераедзе?..

Выйшаў з друку пятнаццаты нумар «Рокаша» — ужо вядомай пастаянным чытачам «Нашага слова» газеты Прыазёрскай рады ТБМ імя Ф. Скарыны (Казахстан). Неяк не верыцца, што не будзе болей сустрэч з гэтым цікавым, арыгінальным на навіны, свежыя думкі выданнем. Што ж здарылася?

Адказвае сам рэдакцыйны калектыў: «...гэты нумар нашай газеты хутчэй за ўсё стане апошнім, прынамсі, апошнім, як газеты Прыазёрскай гарадской рады ТБМ. Справа ў тым, што на падпалкоўніка Судніка і маёра Супаненку падпісаны загад міністра абароны Расіі аб пераводзе іх у распараджэнне міністра абароны Рэспублікі Беларусь. У выніку гэтага тыя супрацоўнікі рэдакцыі, якія яшчэ застануцца ў Прыазёрску, трацяць магчымасць выкарыстання тэхнікі, а разам з тым і магчымасць выпуску газеты».

Нагадаем, што ў Казахстане група афіцэраў-беларусаў у свой час стварыла суполку ТБМ імя Ф. Скарыны, а затым — і суполку БЗВ. Са жніўня 1990 года яны распачалі выданне газеты «Рокаш», усяго выйшла 15 нумароў. Акрамя таго, 73-ім угодкам БНР быў прысвечаны спецыяльны святочны выпуск газеты. Абмежаваным накладам гэты ж калектыў выпусціў зборнік вершаў Станіслава Судніка «Пагоня за мову» і «Шыхтавы статут беларускага войска», які, дарэчы, у Прыазёрску і распрацаваны. У вельмі далёкім ад Беларусі вайсковым гарнізоне г. Прыазёрска існавала і нядзельная беларуская школа.

Пагартаем пятнаццаты нумар газеты. Тут — ізноў сустрэчы з вострымі і дыскусійнымі публікацыямі. На першай старонцы — «Некалькі пытанняў і пярэчанняў адносна ідэі ўвядзення трыбуналаў нацыянальнага гонару». Можна па-рознаму ўспрымаць матэрыял, але ж сама ідэя стварэння строгага кантролю за ходам станаўлення нашай дзяржаўнасці патрабуе, на мой погляд, вялікай увагі.

Другая старонка чарговага нумара адкрываецца публіцыстычным артыкулам Яраслава Грынькевіча пра прысягу беларускіх жаўнераў. Далей ідуць вершы Станіслава Судніка.

Перад Богам Усявышнім і
родным зямлёю
Я табе прысягаю, радзімы
мой край,
Прысягаю і сілай,
і думкай сваёю,
І гарачай крывёю, і шляхам
у рай.
Прысягаю палеткам і нівам
жытнёвым,
І табе, памяць прадзедаў,
легшых у дол,
І сцюдзёным завеям, і
кветкам вясновым,
І табе, роднай хаты амшалы
вугол.

Пад рубрыкай «Дзеці твае, Беларусь» з артыкулам «Сібірская кляштарная «Літва» выступае вядомы краязнаўца з Якуцка Алесь Баркоўскі. Чытач трапляе ў далёкае XVII стагоддзе, даведваецца пра нялёгкі сібірскі лёс палонных з Вялікага княства Літоўскага.

На другой старонцы «Рокаша» ёсць радкі, якія выклікаюць горкі роздум. Маецца на ўвазе кароценькая інфармацыя аб сустрэчы беларускіх афіцэраў Прыазёрскага гарнізона, дзе абмяркоўваліся праекты законаў па вайсковых пытаннях, якія разглядаў Вярхоўны Савет Рэспублікі Беларусь. У ёй гаворыцца: «Прызнаўшы ў цэлым праекты законаў неблагімі, большасць афіцэраў выказала абурэнне рускай моўай праектаў. Дакуль жа мы будзем не паважаць саміх сябе? Дакуль жа дзяржаўныя акты незалежнай краіны будзем множыць на замежнай мове? Калі ўжо ў камісіях Вярхоўнага Савета не ведаюць мовы, то няхай перакладчыкаў наймаюць, пажадана за свой кошт».

Гістарычную тэму працягвае ў «Рокашы» грунтоўная публікацыя Ул. Шнэка-Слуцкага «Другі ўсебеларускі кангрэс».

Будзем спадзявацца, што традыцыі «Рокаша» прыазёрскія беларусы працягнуць і на Бацькаўшчыне.

**Кастусь ЛАДУЦЬКА.**

## ВЕСТКІ З ШАЦІЛАВІЧАЎ

**7 лістапада ў мястэчку Шацілавічы (Светлагорск) упершыню на Гомельшчыне быў пастаўлены і асвечаны крыж у памяць аб ахвярах горада і раёна, якія бязвінна сталі ахвярамі крывавых сталінскіх рэпрэсій 30-ых гадоў.**

**Афіцыйнымі арганізатарамі гэтага мерапрыемства сталі сябры раённых рад БНФ «Адраджэньне» і ТБМ імя Ф. Скарыны.**

**Адбылося шэсце і мітынг, на якім выступілі Вадзім Балбас — сябра раённай рады БНФ «Адраджэньне», Алесь Сіліч — старшыня раённай рады БНФ «Адраджэньне», Ізяслаў Катляроў — сябра Саюза пісьменнікаў Беларусі, старшыня раённай рады ТБМ імя Ф. Скарыны і іншыя.**

**Прагучалі словы рашучага асуджэння сталінскага дэспатызму, які прамоўцы ахарактарызавалі як антычалавечы рэжым.**

**На асвечаным крыжы надпіс: «Тут будзе ўзведзены помнік ахвярам Шацілак і раёна — ахвярам бальшавіцкіх рэпрэсій».**

**Віктусь РАМАНЦОЎ.**

*Заказвайце, калі ласка!*

## «Невядомая вайна супраць Беларусі»

Многія нашы чытачы, відаць, зацікавяцца кнігай Віктара Сіўчыкава «Невядомая вайна супраць Беларусі», урыўкі з якой летась друкаваліся газетай «Голас Радзімы». Кніга павінна выйсці ў выдавецтве «Навука і тэхніка».

Аўтар расказвае пра тое, як бальшавіцкі рэжым дзесяцігоддзямі праводзіў дзяржаўную палітыку дэзінфармацыі, скрываючы ад уласнага народа сутнасць прынятых у Крамлі рашэнняў аб перадачы ў 1939 г. часткі славянскіх тэрыторый (у тым ліку і беларускіх земляў) суседнім балтыйскім краінам. Тады ж атрымалі шырокае распаўсюджанне і сфальсіфікаваныя пралітоўскія ўяўленні аб гісторыі славянска-літоўскіх узаемаадносін. Гэтая хлусня настолькі ўкаранілася, што нават пасля распаду камуністычнай імперыі яна працягвае заставацца «інфармацыйнай базай», якая і сёння ў значнай ступені вызначае пазіцыю грамадскасці розных дзяржаў.

На змену дэзінфармацыі і хлусні прыйшла інфармацыйная самаблакада, калі праўда не можа прабіцца праз стэрэатыпы і забароны, гвалтоўна навязаныя раней. Аўтар кніжкі спрабуе прарваць інфармацыйную блакаду, якая дагэтуль існуе паміж Беларуссю, Расіяй і Літвой.

Аналіз заканчваецца прагнозам магчымага развіцця падзей у згаданым рэгіёне. Кніга разлічана на шырокае кола чытачоў.

Заказ можна даслаць на адрас: 220131 Менск, а/с 229.

**М. В.**

*Горас МАККОЙ*

# БЫВАЙ, ЖЫЦЦЁ, БЫВАЙ, КАХАННЕ!

*(Працяг. Пачатак у 32—50).*

— Вядома, пан Мэрфі...

— І скажыце мне, Джордж, калі ласка: можна паставіць на **столік колькі кветак?**

— Вядома, пан Мэрфі.

— Дзякуй, Джордж. Да сустрэчы.

А Холідэй усё лічыла грошы, быццам нічога і не чула.

— Ты дазволіш мне выбраць табе сукенку на сённяшні вечар? — запытаўся я.

Ні слова ў адказ. Пасвістваючы, я прайшоў у спальню і адчыніў шафу. Адзежы ў Холідэй было небагата.

— Холідэй! — паклікаў я.

Зноў маўчанне.

Я вярнуўся да дзвярэй.

— Холідэй!

Яна паварушылася, але адно дзеля таго, каб яшчэ больш павярнуцца да мяне спінаю.

Я падышоў да яе. Яна ўсё лічыла і пералічвала грошы, не падымаючы галавы.

— Паслухай,— сказаў я.

— Пакінь мяне ў спакоі!

Я ўдарыў яе па руках — у кожнай яна трымала грошы.

— Пайшоў к чорту! — прашыпела яна, адсоўваючыся, са скрыўленым ад шалу тварам.

Я схапіў яе і пачаў трэсці так, што ўрэшце грошы вываліліся з яе рук на падлогу.

— Паслухай,— сказаў я.— Я так хацеў убачыць цябе сёння. Я быў шчаслівы, думаючы пра цябе. Разумееш, нядаўна я ўспомніў некаторыя рэчы, на якія даўно забыўся, але цяпер я зноў шчаслівы — бо зноў забыўся на іх, на ўсе гэтыя клятыя рэшткі мінуўшчыны. Але трэба, каб ты дапамагла мне спаліць іх дазвання...

Быццам у сне, я ўзняў яе на **рукі, аднёс** лёгка, як пушынку, у спальню і паклаў на ложак. Яе вочы зазіхацелі нейкім цудоўным святлом, я адчуў, што ў мяне пахаладзеў жывот, і раптам я застагнаў і ўпаў побач з ёй на калені. Недзе далёка, вельмі далёка заавінеў званочак...

— Холідэй! — паклікаў я.

Ні слова ў адказ.

— Холідэй!

Зноў маўчанне.

Божа, **падумаў я, зноў пачынаецца.**

Я ўстаў і выйшаў у гасцёўню. Яна стаяла на каленях і збірала грошы.

— Холідэй!

Яна азірнулася.

— Што ты будзеш рабіць са сваімі грашыма? — спытала яна.

— Вазьму сабе.

Я аднёс сваю долю ў спальню і паклаў яе ў адну з сваіх шуфлядаў у шафе. Калі я азірнуўся, яна раскладвала свае грошы ў дарожнай валізе.

— Трэба купіць табе сукенку на сённяшні вечар,— сказаў я.— У цябе няма нічога файнага.

— Я абыдуся тым, што ў мяне ёсць,— адказала яна, закрываючы сумку.

— Заўтра купім табе шыкоўную сукенку. Калі мы становімся заўсёднікамі залы Архідэяў, табе трэба мець што-небудзь сапраўды адвальнае. Сёння надзенеш, што хочаш, а заўтра заб'ём шмоткамі ўсю тваю шафу.

Тут нехта пастукаўся ў дзверы.

— Мабыць, Джынкс,— сказаў я.— Ну, жывёліна, трэба яму вяртацца...

— Не злуйся,— сказала яна.— Не трэба табе з ім сварыцца.

— Сварыцца сёння — у мой першы вечар сапраўднай волі?

Зноў пачуўся стук у дзверы, і я пайшоў адчыніў іх.

Аднак гэта быў не Джынкс, а Мандан.

— Праходзьце,— сказаў я.— Мы якраз сабраліся адкаркоўваць шампанскае.

Ён увайшоў, я зачыніў дзверы.

— Чаму вы не адказваеце па тэлефоне? — спытаўся Мандан.

— Па тэлефоне? Нам ніхто не званіў.

— Кіньце! Я вельмі доўга званіў. Чым вы маглі займацца, што нічога не чулі?

Я ўспомніў пра той званочак удалечыні...

— Нічога не разумею,— сказаў я.

— Надзявайце пінжак. Мне трэба з вамі пагаварыць.

— Вы можаце пагаварыць тут,— сказала Холідэй, выходзячы са спальні.

— Не мяшайцеся,— крыху ўспыхнуў ён.— Гэта вас не датычыць.

— Калі гэта датычыць яго, дык датычыць і мяне.

— Прынясіце лепш яму пінжак! — гыркнуў ён.

У Холідэй ажно вочы заблішчэлі ад шалу.

— Слухай, фраер, ты са мною так не гавары! — прашыпела яна.

— Спакайней! — сказаў я.— Не будзем псаваць сённяшні вечар...

— Рабіце тое, што я вам сказаў,— настойваў Мандан.— Прынясіце яму пінжак.— Голас у яго быў занепакоены, трывожны, і выглядаў сам ён змрочна.— У нас мала часу, разумееце, зусім мала.

— Што здарылася? — спытаўся я.

— Багата чаго!

Звычайна Мандан быў вельмі спакойны і разважлівы, а цяпер я бачыў, што нешта яго вельмі ўжо хвалюе. Мабыць, нейкія праблемы ў Ромэра з Уэбэрам. Нейкі пракол, няйначай...

Я хутка прайшоў у спальню і ўзяў пінжак.

— Я вярнуся праз некалькі хвілін,— сказаў я Холідэй.

Мандан адчыніў дзверы, і мы сабраліся ўжо выходзіць, як раптам Холідэй схапіла яго за руку:

— Я пайду з вамі. Што вы там робіце за маёй спінаю? Я ўжо сытая гэтым па горла.

Раз'юшаны, Мандан вызваліў руку і адштурхнуў Холідэй. Яна запрацавала шчокамі і вуснамі, і я зразумеў, што яна збірае сліну, каб плюнуць яму ў твар.

Я стаў паміж імі.

— Заставайся тут,— сказаў я.— Я хутка вярнуся.

Я амаль подбегам дагнаў Мандана. Холідэй грымнула, што было сілы, дзвярыма. Аж вокны ў калідоры задрыжэлі...

— Сядайце,— адчыніў Мандан дзверцы сваёй машыны.

Я сеў, не задаючы пытанняў.

— Спыніся каля бензакалонкі,— сказаў ён негру. Затым мне: — Трэба вам пазбавіцца ад гэтай сцервы. Я ўжо яе больш не выношу.

Машына кранулася з месца.

— Няхай гэта вас не клапоціць,— адказаў я.— Што здарылася?

— Гэтая дзяўчына прыходзіла да мяне.

— Дзяўчына? Якая дзяўчына?

— Маргарэт Добсан.

— І ўсё?

— Вам гэтага мала?

— Дык вы ўсчалі ўвесь гэты гвалт толькі таму, што да вас прыходзіла Маргарэт Добсан? Ну і ну! А я думаў, што справа ў нападзе. Думаў, пракалоліся дзе-небудзь. З-за вас я зноў буду сварыцца з Холідэй — толькі таму, што гэтая мышка дадумалася наведаць вас! Вы мяне здзіўляеце. Можа, мне трэба паглядзець на вас трохі іншымі вачыма?

— Яна шукае вас.

— Няхай шукае. У яе не можа быць да мяне аніякіх прэтэнзій. Я не ўзяў яе бабак. Усё адбылося па-чалавечы. І няма чаго злаваць, няма аб чым шкадаваць...

— Вельмі па-чалавечы ўсё адбылося,— усміхнуўся ён.— Мы не трапілі б у такое становішча, як цяпер, калі б вы паслухаліся мяне і ўзялі грошы. Не, вы ж такі разумны. Вы мацнейшы за ўсіх. А мне не трэба, каб за мною насіліся добсанаўскія ганчакі. Вы думалі, што яны адвяжуцца ад вас, калі вы адмовіцеся ад бабак, а атрымалася наадварот. Яны цяпер якраз на хвасце ў нас — і ў вас, і ў мяне.

Ганчакі Добсана ў нас на хвасце? Я нічога не разумеў.

— Навошта ёй мяне шукаць, калі ёй няма чаго з мяне патрабаваць?!

— Калі вы адмовіліся ад трыццаці пяці тысяч долараў, стары Добсан цалкам перамяніўся ў сваёй думцы пра вас. Такога з ім яшчэ ніколі не здаралася. Усё жыццё яго даставалі людзі, якія чаго-небудзь ад яго хацелі — бабак, пратэкцыі,— і ён усё яшчэ не можа зразумець, як гэта чалавек можа адмовіцца ад такога падарунка — трыццаці пяці штук... Як яна мне расказала, дык ён пасля таго, як вы пайшлі, хвілін дзесяць не мог ачомацца, а потым раптам спахапіўся, каб затрымаць вас, але вы ўжо зніклі. Яна з бацькам доўга спрачалася на гэты конт, але, уявіце сабе, яна зусім не здзіўленая вашым учынкам. Яна паспела ўведаць вас, як чалавека з гонарам, чалавека высакароднага, джэнтльмена... Цяпер яны ўдваіх вас шукаюць. Яны ўжо да драбніц абмеркавалі вашую будучыню. Вам падрыхтавана выдатнае месца.

— Мне вельмі прыемна, што мяне так шануюць,— сказаў я,— аднак я не шукаю ніякага месца. Вы ёй гэта сказалі?

— Я сказаў, што ў вас шмат чаго на прыкмеце, што вы маеце цікавыя планы. Што я яшчэ мог ёй сказаць? Яна падазрона ставіцца да мяне. У яе вачах я чалавек з благой рэпутацыяй...

— Чаго вы чакаеце ад мяне?

— Усё вельмі проста. Сустрэньцеся з ёю і скажыце, што вам не патрэбнае гэтае месца. Я паабяцаў, што вы патэлефануеце ёй праз гадзіну. Часу ўжо засталося зусім мала.

— Вы звар'яцелі!

— Вам усяго толькі трэба ўбачыцца з ёю. Падзякуйце ёй і адмоўцеся — вось і ўсё.

— Пра гэта не можа быць і гаворкі.

— Ну што вы за чалавек! — узвіўся ён.— Паслухайце: я паабяцаў гэтай дзяўчыне, што вы патэлефануеце ёй праз гадзіну. Альбо вы гэта зробіце і пойдзеце да яе, альбо ганчакі яе бацькі знойдуць вас. А ягоныя ганчакі — гэта, па **сутнасці, уся гарадская паліцыя. Ён толькі пальцам шчоўкне — і ўсе выжлы панясуцца...**

— Я магу выкруціцца.

— Нават не спрабуйце. Нават вы, з вашым спрытам. Ён і вас здзівіць. Ведаеце, што яны вырашылі зрабіць, калі вы не аб'явіцеся? Абшукаць ад гары да сутарэння, ператрэсці ўсе ўстановы, усе жылыя дамы ў ніжнім горадзе. Гэта ўсё, што яна ведае пра вашае месцазнаходжанне: што вы жывяце недзе ў ніжнім горадзе.

Негр спыніў машыну каля бензазапраўкі. Падышоў рабочы.

— Запраўце на поўніцу,— сказаў яму Мандан. — І паўтараю,— прадоўжыў ён размову са мною, — не яна адна задумала вас адшукаць — можа, стары хоча гэтага не менш. І ён даб'ецца свайго, як бы вы ад яго ні ўцякалі. Навошта нам завальваць усе нашыя планы, калі вам дастаткова толькі **сказаць** ёй «не»? Вам што, страшна пабыць з ёю дзеля гэтага некалькі хвілін? Можна падумаць, гэта пытанне жыцця і смерці.— Ён дастаў з кішэні невялічкі аркуш паперы і працягнуў яго мне.— Гэта яе нумар... Давайце. Тэлефануйце.

Я ўзяў гэты кляты нумар, выйшаў з машыны і прайшоў да тэлефоннай кабіны.

## VII

Таксоўка спынілася каля брамы з бронзавых кратаў. Шафёр адчыніў дзверцы.

— Чакайце,— сказаў я, бо ўспомніў, што дом знаходзіцца на самай вяршыні пагорка.

Адчыніліся дзверы будкі, і да нас падышоў брамнік з рэвальверам на рамяні.

— Пан Мэрфі?

— Я.

— Калі ласка, якое-небудзь пасведчанне.

— Панна Добсан чакае мяне,— адказаў я.— Гэтага мала?

— У вас няма вадзіцельскіх правоў ці чаго-небудзь такога?

— Дальбог... гм...— сумеўся я і раптам успомніў, што ў мяне ёсць пасведчанне аб праве на нашэнне зброі.

Я паказаў яму пасведчанне, ён пасвяціў на яго ліхтарыкам, кіўнуў галавою і вярнуўся да будкі.

— Прапускай, Крыс,— сказаў ён, і я ўбачыў на парозе будкі другога брамніка. Той націснуў на нейкую кнопку ў сцяне.

Затым першы брамнік сеў у таксоўку, і тут брама расчынілася. Мы паехалі па шырокіх кіпарысавых прысадах.

— Вы так з усімі наведнікамі пана Добсана? — спытаўся я.

— Толькі з тымі, каго не ведаем...

Таксоўка спынілася перад домам, я выйшаў з яе і заплаціў шафёру. Брамнік застаўся ў машыне.

Я націснуў на бронзавую кнопку, і велізарныя дзверы расчыніліся. Перада мною з'явіўся мажардом.

— Пан Мэрфі?

У яго было класічнае ангельскае вымаўленне!

— Я.

— Панна Добсан чакае вас, пан.

Я прайшоў у прасторны раскошны хол, аздоблены дыванамі, вітражамі і вялізнымі люстрамі. Мажардом, зачыніўшы дзверы, павёў мяне за сабою ў другі канец хола.

**Раптам у адной з яго сцен, за некалькі крокаў ад мяне, расчыніліся дзверы, і з ліфта выйшла** Маргарэт. На ёй былі світэр, спадніца і макасіны. Скура ўсё такая ж белая, валасы — чорныя...

— Поль! — усклікнула яна.— Я так рада цябе бачыць.

«Трымайся,— сказаў я сабе,— не тузайся,— той вечар прайшоў, усё кончана...»

— Добры вечар, Маргарэт.

Мы пацiснулі адно аднаму рукі. Мажардом пакланіўся нам.

— Рашынг,— сказала яна яму,— папярэдзьце бацьку, што пан Мэрфі ў нас. Мы будзем у бары.

— Добра, пані Маргарэт,— адказаў мажардом і пайшоў.

— Выдатна, што ты прыйшоў,— сказала Маргарэт, беручы мяне пад руку і ведучы ў другі канец хола.— Я табе вельмі ўдзячная, мне было б цяжка адшукаць цябе.

Яна ўсміхнулася мне так, нібыта мы не **бачыліся** вечнасць, і правяла мяне ў вялікі пакой, застаўлены сталамі, лаўкамі і фатэлямі з чырвонай і зялёнай скуры. За стойкай вялізнага, на ўсю сцяну, бара стаяў малады **філіпінец** у белым пінжаку і шырока ўсміхаўся нам.

— Джыну з шампанскім мне,— сказала яму Маргарэт.— А табе што, Поль?

— Гарэлкі з марціні.

— Рафаэль, у нас ёсць гарэлка?

— Вядома, пані.

— Сядай, Поль. Закурыць хочаш?

— Не. Дзякуй.

Яна села каля стала, я — на канапу з зялёнай скуры.

— Добра, што ты прыйшоў такі спакойны,— сказала яна.— Калі ты званіў, то здаўся мне агрэсіўным. Можа, я дрэнна зрабіла, што пайшла да Мандана?

— Чаму? Твая воля.

*(Працяг будзе).*

Цяжка сказаць, што азначала слова «каляда». Ці была гэта назва бажаства, ці назва свята, прысвечанага нейкаму

сувязі з паганскімі ахвяражыны — гэта цэлы абрад, якому беларусы надаюць важнае значэнне, галоўным

ставяць куццю. Усе моляцца Богу. Затым гаспадар бярэ куццю і, выйшаўшы на двор, абносіць яе вакол хаты або,

*Адам БАГДАНОВІЧ*

# Каляды

богу, або тое і іншае разам,— наконт гэтага можна адно рабіць больш або менш дасціпныя дагадкі. Навуковыя даследаванні, паколькі яны закраналі дадзенае пытанне, не даюць нічога станоўчага і пераканаўчага. Аднак, назіраючы абрады і забабоны, звязаныя з гэтым святам, даследуючы калядныя песні, можна зрабіць выснову, што, па-першае, Каляды служылі пачаткам года, па-другое, што іх святкаванне мела цесную сувязь з гаспадарчай сферай жыцця народа, з яго земляробчымі поглядамі, і, па-трэцяе, яно мела, у пэўнай ступені, сувязь са шлюбнымі або наогул адносінамі паміж паламі. Усё гэта дае падставу аднесці Каляды да ліку свят сонечнага культу...

•

Беларусы ўжываюць слова «каляда» ў двух значэннях: як назву свята і як назву прадуктаў, якія вырабляюцца да Каляд са свініны: кілбас, сала, кумпякоў (шынак). Усё гэта называецца калядою. Напрыклад, выказваюцца так: «Даў яму нямнога каляды»,— разумеючы пад гэтым колца кілбасы, кавалак сала і да таго падобнае. Альбо: «У яго ўсю каляду ўкралі»,— пры гэтым пад калядой таксама маюцца на ўвазе прадукты, прыгатаваныя са свінога мяса. У гэтым жа сэнсе спяваюцца калядныя песні:

Ехала Каляда па ляду,
Рассыпала каляду.

У сэнсе свята назва «каляда» даецца тром дням: пярэдадню Нараджэння Хрыста — гэта Посная каляда; пярэдадню Новага года — гэта Багатая каляда, інакш Тлустая, Шчэдрык, і пярэдадню Хрышчэння Гасподняга — гэта «Кшчэнская каляда», або Галодная. Аднак у некаторых мясцовасцях пад словам «каляды» разумеюць увесь час з 24 снежня па 6 студзеня. Часам замест слова «каляда» ўжываюць слова «куцця», гэта значыць, што назву галоўнай стравы, якая абавязкова рыхтуецца на кожную каляду, надаюць самому дню. Аднак якой-небудзь канкрэтнай істоты, што называлася б калядой, народ не ўяўляе. Ва ўсякім выпадку нам не ўдалося заўважыць якіх-небудзь ясных прыкмет таго, што такое ўяўленне існуе, хоць так і можна было б думаць, мяркуючы па вышэй прыведзенаму ўрыўку песні.

Як без аладкі — не масленіца, так без кілбасы, тлустай верашчакі — не каляды, — і кожны гаспадар стараецца закалоць да гэтых свят адкормленага парсюка, а то і двух — хто больш заможны. Дзіўная справа: як ні шануюць сяляне пасты, аднак пры разборы забітай свінні многія не могуць устрымацца ад спакусы паласавацца «свяжынкай», асабліва беларусы-каталікі, якія не так строга прытрымліваюцца посту.

Пластаванне каляднай свечынам, у сэнсе варажбы на ўраджай будучага года...

У гэтым нельга не бачыць

*Каляды — адно з самых значных гадавых свят народнага календара, багатае, як і Вялікдзень, на абрады, песні і вясёлыя забавы. Прыгадваем хаця б хаджэнне каляднікаў з казой і гульню «Вяселле Цярэшкі».*

*У нарысах Адама Багдановіча «Каляды», «Калядныя звычаі і гульні» і «Каляднікі» падрабязна і дэталёва расказваецца пра даўні звычай беларусаў адзначаць гэта свята, што захавала ў сабе і данесла да нашых дзён рысы старажытнага сонечнага культу. Спадзяёмся, што публікацыя гэтых нарысаў зацікавіць чытача і адначасна дапоўніць наш сціплы «Народны каляндар». Тэксты друкуюцца са скарачэннямі.*



прынашэннямі, якія, як вядома, суправаджаліся варажбой на вантробах ахвярных жывёл. Магчыма, што ў нашых продкаў на Каляды (час зімовага сонцавароту) менавіта парсюка прыносілі ў ахвяру Сонцу і па вантробах жывёлы варажылі аб тых рэчах, якія, згодна з першабытнымі ўяўленнямі, знаходзіліся ў залежнасці ад гэтага бажаства. Як мы ўбачым далей, усе каляды суправаджаюцца варажбой, якая распадаецца на тры тэматычныя часткі: гаспадарчая, або земляробчая; на суджанага, або любоўная; на будучы лёс: «пра жыццё, пра смерць, пра ўвесь род чалавечы».

Найбольш мэтазгодна варажыць пра будучыню на пачатку года, а гэта ў нейкай меры паказвае на тое, што Каляды лічыліся менавіта пачаткам года; таксама мэтазгодна было варажыць на ўраджай і любоўныя справы ў той час, калі спраўлялася свята менавіта бога земляробства, урадлівасці і любові, якім, несумненна, лічылася Сонца. У далейшым мы знойдзем яшчэ пацвярджэнне ўсяму гэтаму.

На Посную каляду (24 снежня) прыгатаўляюць куццю з сытой, падліўку з грыбамі або рыбай, аладкі з мёдам або макам, бліны, рыбу смажаную, клёцкі, кісель,— усяго сем страў,— лічба, якая ў абрадавых трапезах мае сімвалічнае значэнне.

Вечарам, як толькі з'явяцца зоркі на небе, калі ўжо ўсё ў хаце прыбрана, вымецена, вычышчана, кладуць на стол сена, зверху накрываюць абрусам, кладуць хлеб-соль і

калі гэта магчыма, вакол двара. Затым, падышоўшы да акна, тройчы стукае. З хаты гаспадыня або старэйшы ў сям'і пытае: «Хто там?» Гаспадар адказвае: «Сам Бог ідзець, куццю нясець». І пасля гэтай арыгінальнай цырымоніі ўваходзіць у хату. Куцця ставіцца на стол, і ўсе пачынаюць есці з адной міскі, не спяшаючыся, наглядаючы, каб усе бралі па чарзе, па старшынству. Апісаны звычай існуе ў Бабруйскім павеце. У другіх мясцовасцях клічуць мароз куццю есці. Пры гэтым просяць яго, каб ён не памарозіў рунь у полі. Усе ядуць да адвалу. Ніводнай стравы нельга прапусціць.

Пасля вячэры варожаць. Выцягваюць з-пад абруса сцяблінку сена і па яе даўжыні робяць выснову, якім будзе лён — доўгім ці кароткім. Шукаюць у сене зярняткі, і калі знойдуць, скажам, ячменнае зерне,— значыць, уродзіцца ячмень. Выцягваюць каласістыя травінкі і па падабенству іх каласкоў да каласкоў хлебных раслін мяркуюць, якая збажына будзе найбольш ураджайнай. Калі на куццю густа зорак на небе, гэта азначае, што будзе шмат грыбоў і ягад. Хлопцы і дзяўчаты топяць воск і льюць у ваду, стараючыся па вылітых фігурках адгадаць свой лёс. Дзяўчаты, схапіўшы акраец хлеба, выбягаюць на «смалішча» (месца, дзе смалілі парсюка), ядуць там хлеб і слухаюць, з якога боку пачуецца голас, гамонка, гаўканне сабакі,— значыць, туды ёй выйсці замуж.

Варожаць і на іншыя каляды. Напярэдадні Новага года льюць волава або свінец у ваду і па фігурках варожаць. Адасобіўшыся ў пакоі або ў кладоўцы, глядзяць праз колца на полымя свечкі, спадзеючыся ўбачыць суджанага або тое, што будзе. Варожаць і другім спосабам. Трэба, замкнуўшыся ноччу ў лазні і паставіўшы перад сабою люстэрка, а па баках яго дзве свечкі, глядзець у люстэрка не міргаючы, не адрываючы вачэй і не аглядваючыся навокал. Хто не баязлівы і выконвае ўсе ўмовы дакладна, той, маўляў, убачыць усё, што мае адбыцца з ім у будучыні.

Вечарам перад Вадохрышчам лічаць калы ў плоце; перабіраюць іх усе да канца, прыгаворваючы: кол, каліца, кол, каліца і г. д. Калі апошнім выйдзе кол, значыць, выйдзе дзяўчына замуж, а калі каліца — значыць, не выйдзе. Бяруць бярэма дроў і, прынёсшы ў хату, лічаць, цотны ці няцотны лік паленцаў. І многа іншых ёсць спосабаў варажбы. На Багатую каляду гатуецца мноства страў, прытым усё скаромнае, тлустае, тады як на Вадохрышчанскую каляду ўсе стравы посныя і прыгатаўляецца іх меней, таму яна і называецца галоднай. Асаблівай абрадавасцю, акрамя варажбы, яны не вылучаюцца.



Ікона XIX стагоддзя захоўваецца ў фондах Брэсцкага краязнаўчага музея.

Фота Яўгена КАЗЮЛІ.
Белінфарм.

# Ой, на моры, моры




**Ой, на моры, моры**
**Ды на сінім, сінім,**
**Шчодры вечар,**
**Добры вечар! (2 разы)**

**Там ляжала кладка,**
**Ляжала кедрова,**
**Шчодры вечар,**
**Добры вечар! (2 разы)**

**Там Хрыстова Маці**
**Рызы паласкала,**
**Шчодры вечар,**
**Добры вечар! (2 разы)**

**Хто жа гэты рызы**
**Будзе апранаці,**
**Шчодры вечар,**
**Добры вечар! (2 разы)**

**Будзе апранаці**
**Сам Ісус Хрыстос Бог,**
**Шчодры вечар,**
**Добры вечар! (2 разы)**





Заснавальнік: ТБМ імя Ф. Скарыны.
Наш адрас: 220005, г. Менск, вул. Румянцава, 13.
Тэлефон рэдакцыі: 33-17-83.
Аўтары надрукаваных матэрыялаў адказваюць за дакладнасць фактаў і іншых звестак. Пункт гледжання аўтара неабавязкова можа адпавядаць меркаванню рэдакцыі.
Рукапісы рэдакцыя не рэцэнзуе і назад не вяртае.
Падпісана ў друк 21.12.1992 г. у 15 гадзін.
МВПА імя Якуба Коласа.
Мінская паліграфічная фабрыка «Чырвоная Зорка».
Наклад 7371 паасобнік. Зак. 1209. Індэкс 63865.